КУЛЬТ ФРОНТ
БКС БАКТ
ШТОМЕСЯЧНЫ ЧАСОПІС БЕЛАРУСКАГА АБ'ЯДНАНЬНЯ КУЛЬТТАВАРАЎ „БАКТ"
№ 4 | 30 сьнежня 1932 г. | № 4



# НА ПАРОЗЕ 1933 ГОДУ

Праграма работ кнігагандлёвай сеці спажывецкай каапэрацыі ў новым гаспадарчым годзе выцякае з палітычных і гаспадарчых задач, пастаўленых партыяй у другой пяцігодцы.

Вялізарныя посьпехі сацыялістычнага будаўніцтва нашай краіны выклікае актыўнасьць і энтузіязм мільёнаў мас працоўных. Пад уплывам гэтых посьпехаў ідзе карэнная ломка старых сьветапоглядаў.

Пасьпяховая індустрыялізацыя і калектывізацыя нашай краіны пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі стварылі прадпасылкі да далейшага разгортваньня культурнага будаўніцтва.

Ліквідацыя няпісьменнасьці, пашырэньне школьнай сеткі і сеці вышэйшых навучальных устаноў (ВУЗ'ы, ВТУЗ'ы, тэхнікумы і г. д.), а таксама вялікая цяга да падняцьця тэорэтычнага ўзроўня з боку працоўных гораду і вёскі, прад'яўляе павышаныя патрабаваньні да якасьці нашай работы.

Наша задача найбольш поўна і культурна задаволіць гэтыя запатрабаваньні.

Работа кнігагандлёвай сеці спажывецкай каапэрацыі за 11 месяцаў 1932 г. характарызуецца некаторым ростам якасных і колькасных паказчыкаў па рабоце з кнігай і культтаварамі.

На працягу 1932 г. кнігагандлёвай сыстэмай спажывецкай каапэрацыі было праведзена шэраг масавых мерапрыемстваў, якія забясьпечылі прасоўваньне кнігі сярод рабочых лясной прамысловасьці (лесарубаў, лесасплаўшчыкаў), снабжэньне адпаведнай кнігай калгасаў і саўгасаў, школ і г. д.

2-хдэкаднік „Кніга—вучню" даў рашучы зрух у галіне ўнядрэньня кнігі ў вучнёўскія масы. У IV квартале кнігарні ўключыліся ў агратэхпаход, арганізаваўшы снабжэньне с-гаспадарчай кнігай агратэхнічныя гурткі і г. д.

Для ўзмацненьня кнігарань адпаведнымі кадрамі, БАКТ'ам былі праведзены паўтарамесячныя курсы падрыхтоўкі кадраў для раёнаў, якія ў гэтых кадрах маюць патрэбу.

У 1932 г. былі распачаты і скончаны пабудовай, а таксама рамонт шэрагу раённых кнігарань: Плешчаніцы, Жлабін, Чырвоная-Слабада, Парычы і інш.

На сёньняшні дзень 41 кнігарня з 75—знаходзяцца ў памяшканьнях спэцыяльна прыстасаваных для кнігагандлю.

Усе гэтыя мерапрыемствы забясьпечылі рост звароту па кнізе, так: за 11 месяцаў 1932 г. было распаўсюджана літаратуры на 2.578.400 руб., з іх на белмове—на 1.721.950 руб., у той час як за 11 месяцаў 1931 г. было рэалізавана літаратуры на 2.195.600 руб., з якой на белмове—на 1.440.100 руб. Рост па агульным продажу—17,4 проц. і па белкнізе—20 проц.

Але побач з гэтым мы з усёй катэгарычнасьцю павінны падкрэсьліць, што нашу работу нельга лічыць здавальня-

ючай, справа кнігараспаўсюджваньня адстае ад агульных тэмпаў сацыялістычнага будаўніцтва і ўзросшых запатрабаваньняў шырокіх працоўных мас.

Масавыя формы работы з кнігай ужываюцца недастаткова.

Многія нашыя магазыны па свайму выгляду не адпавядаюць свайму культурнаму прызначэньню.

Тое становішча, што многія нашы кнігарні ня могуць наладзіць кансультацыю спажыўцам, сьведчыць аб культурнай адсталасьці прадаўцоў.

Мы маем шмат фактаў, калі кнігарні адмаўляюць пакупніку ў тых ці іншых кнігах у той час, калі гэтыя кнігі знаходзіліся на полках кнігарні.

Асартымэнт беларускай кнігі за апошні год настолькі вырас, што мы маем усе магчымасьці для больш поўнага задавальненьня спажыўцоў, але, нажаль, работа над асартымэнтам зьяўляецца закінутым вучасткам работы кнігарань.

Маюцца частыя выпадкі, калі распраданая кніга больш не заказваецца, у выніку—спажывец кнігі абслугоўваецца няпоўна. Няпоўна таксама абслугоўваецца спажывец і інш. культтаварамі.

Боязьнь завозу асобных відаў спартыўных тавараў сьведчыць аб адарванасьці нашых магазынаў і філіалаў ад фізкультурных арганізацый.

Недастаткова была разгорнута работа па забясьпечаньню школ палітэхнічным абсталяваньнем.

Першы год работы філіалаў БАКТ'у на гаспадарчым разьліку паказаў нягібкасьць паасобных філіалаў. Няпоўнае скарыстаньне сваіх фінансавых магчымасьцяй. Апарат недастаткова быў мабілізаваны на паскарэньне тавараразвароту.

На базе паляпшэньня матарыяльных і культурна-бытавых умоў працоўных і далейшага разгортваньня культурнай рэвалюцыі, попыт на кнігу і культтавары ў новым наступаючым годзе, бязумоўна, вырасьце.

1933 год павінен стаць годам рашучага пералому ў галіне падвышэньня якаснага боку работы сыстэмы спажывецкай каапэрацыі з кнігай і культтаварамі.

Мы высоўваем перад кожным кніжнікам канкрэтныя задачы—паставіць у раёне работу кнігарні так, каб яна не адрозьнівалася па сваёй якасьці ад магазынаў буйных гарадоў.

Неабходна ўстанавіць сталую сувязь з асноўнымі пакупнікамі кнігі (прамысловымі прадпрыемствамі, МТС, МТФ, сямігодкамі, хатамі-чытальнямі, бібліятэкамі, буйнымі калгасамі, рабачкомамі, М. К., саматужнымі арцелямі і г. д.), для чаго дамовіцца з імі аб сыстэматычнай засылцы ў бібліятэкі гэтых установ усіх паступаючых у кнігарні навінак, выходзячы з гаспадарчага і культурнага профілю той альбо іншай установы, г. зн. усе паступаючыя кнігі-навінкі па жывёлагадоўлі пасылаць у МТФ, саўгасы і калгасы з жывёлагадоўчым ухілам і г. д.

Адначасова з узмацненьнем работы раённай кнігарні неабходна прыступіць да перабудовы кнігараспаўсюджваньня ў глыбінных пунктах.

Існуючыя падраённыя кнігарні і аддзелы павінны атрымаць з боку райкнігарні моцнае кіраўніцтва, пэўны інструктаж і сыстэматычнае снабжэньне навінкамі.

На працягу 1933 г. ня менш 15 проц. кніжных полак павінны быць ператвораны ў кніжныя аддзелы з самастойнымі прадаўцамі.

Пытаньне далейшага забясьпечаньня школ палітэхнічным абсталяваньнем залежыць ад таго, як наша сыстэма справіцца з задачамі арганізацыі вытворчасьці і завоза палітэхнічнага абсталяваньня.

Патрэбна ўпартая, штодзённая, адданая работа па прыкладу маючыхся ўжо ў нашых радох ударнікаў, энтузіястых гэтае справы, патрэбна ўзмоцненая работа над аўладаньнем тэхнікай гандлю кнігамі і культтаварамі і кніжнікі спажывецкай каапэрацыі БССР, якія зараз змагаюцца за першае месца ў СССР, сапраўды паставяць справу гандлю кнігамі і культтаварамі на вышыню адпавядаючай запатрабаваньням шырокіх мас працоўных.

Є. ЛЮБІЧ

# ЗА БАЯВУЮ ПРАВЕРКУ ЗАДАЧ

Пяць год таму назад па вялікаму пачыну Ленінскага камсамолу быў арганізаваны ўсесаюзны культпаход па барацьбе з бязкультурнасьцю, п'янствам, рэлігіяй і няпісьменнасьцю. Культпаход выкрыў шмат недахопаў у працы ворганаў народнай асьветы, культаддзелаў прафсаюзаў, выдавецтваў і ў кнігагандлёвых арганізацыях.

Другім этапам культпаходу зьявіўся абвешчаны праз год бібліятэчны паход, які ставіў сабе мэтай і задачай мабілізацыі сілы і ўвагі партыйнай, камсамольскай, прафсаюзнай і каапэрацыйнай грамадзкасьці Савецкага Саюзу да працы па ўзмацненьню бібліятэк і актывізацыі бібработы. У эпоху вялікіх работ пабудовы сацыялізму, вялікую ролю набывае пытаньне культурнага будаўніцтва.

Мы павінны разам з узмацненьнем работы па барацьбе з рэлігіяй, п'янствам і г. д., шырока разгарнуць работу па пашырэньню каналаў, па якім кніга павіннаісьці да шырокіх працоўных мас гораду і вёскі.

Прыкладна гэтакія задачы былі пастаўлены пяць год таму назад культ і бібпаходам у момант, калі працоўныя масы Савецкага Саюзу ўпяршыню прыступілі да ажыцьцяўленьня пяцігадовага пляну сацыялістычнага будаўніцтва.

Прайшло пяць год, наша краіна пад кіраўніцтвам Цэнтральнага Камітэту УсеКП(б) і яе правадыра т. Сталіна, у бязьлітаснай барацьбе з усялякімі ўхіламі ад генэральнай лініі партыі атрымала вялізарнейшыя посьпехі на ўсіх асноўных вучастках сацыялістычнага будаўніцтва гораду і вёскі. Вялікія посьпехі мы маем і на фронце культурнай рэвалюцыі: значнае павялічэньне лік школ і навучальных установ, як Вузы, Втузы, ШКМ, ФЗВ, і г. д.

У значных разьмерах павялічваўся лік новых кніг, пашыралася бібліятэчная і кнігагандлёвая сець, вырас лік спажыўцоў і чытачоў кнігі, але ня ўсё зроблена, шмат недахопаў у нас яшчэ маецца на фронце культуры і ў прыватнасьці, вялікія недахопы мы маем у галіне прасоўваньня кнігі да чытача.

Кнігараспаўсюджваньне ў БССР адстае ад росту культурных попытаў шырокіх працоўных мас і ад тэмпаў сацыя-



Мсьціслаўль. Кіёск у гВК

лістычнага будаўніцтва, галоўныя недахопы і слабасьці працы ворганаў кнігараспаўсюджваньня заключаюцца ў замкнутасьці, адарванасьці ад чытачоў і патрэбнасьці кніжнага рынку, недастатковая сувязь кнігагандлёвых ворганаў з партыйна-камсамольскімі і савецкімі арганізацыямі, у адсутнасьці актыўных культмасавых форм працы з кнігай і г. д.

Значныя недахопы мы яшчэ маем у бібрабоце, якія заключаюцца ў недастатковым ахопе бібліятэкай рабочых, калгасьнікаў, жактаў і г. д., ня усе бібліятэкі, хаты-чытальні ачышчаны ад баласта ўстарэлых і ад палітычна-нявытрыманых кніг, палітычныя і гаспадарчыя кампаніі недастаткова абслугоўваюцца кнігай і г. д.

Зразумела, што культ і бібпаход не змаглі адразу ліквідаваць усе недахопы палітасьветнай работы і будзе ў корні няправільна, калі мы разгледзім культ і бібпаход, як кароткатэрміновую кампанію, а не як пачатак працяжнай сыстэматычнай працы, накіраванай у бок падняцьця якасьці працы ўсіх культпалітасьветных, выдавецкіх і кнігагандлёвых арганізацый і ўстаноў.

Менавіта, цяпер, калі мы знаходзімся на парозе другой пяцігодкі настаў час заявіць, што яшчэ ня ўсе задачы культ і бібпаходу выкананы, шмат чаго яшчэ не дароблена.

Палітычныя задачы другой пяцігодкі якія заключаюцца ў канчатковай ліквідацыі капіталістычных элемэнтаў і клясаў наогул, прэадаленьне перажыткаў капіталізма ў эканоміцы і ў сьвядомасьці людзей, ператварэньне працоўнага насельніцтва краіны ў сьвядомых і актыўных будаўнікоў бязклясавага сацыялістычнага грамадзтва, патрабуюць такіх тэмпаў і якасьці культурнай работы, якія-б цалкам адпавядалі ўсяму вялікаму пляну пабудовы сацыялізму ў СССР.

У другой пяцігодцы адбудуцца значныя сацыяльныя і культурныя зрухі сярод насельніцтва і патрэбнасьць у кнізе ў шмат разоў павялічыцца, у гэтых умовах работа бібліятэкі, хаты-чытальні і кнігагандлёвай сеці набываюць выключнае значэньне і адсталасьць на гэтым фронце нас моцна б'е.

У другой пяцігодцы ў шмат разоў павялічыцца выдавецкая дзейнасьць, павялічыцца выпуск новых кніг і калі мы зараз не перабудуем каналы, па якім кніга павінна ісьці да чытача, дык, бязумоўна, можа здарыцца разрыў паміж работай кнігагандлёвых устаноў і культурным запатрабаваньнем шырокіх мас працоўных.

Спажывецкая каапэрацыя Беларусі—БАКТ зараз праводзіць 3-хмесячнік кнігі пад лёзунгам: „За якасьць работы кнігагандлёвай сеці". Камсамол Беларусі ўзначаліў правадзімы трохмесячнік. Але мы лічым, што гэта работа будзе ня поўнай, калі яна адначасова не закране ўсю сетку культасьветных устаноў.

Набліжаюцца Ленінскія дні, партыйна-савецкая грамадзкасьць павінна выканаць адзін з лёзунгаў свайго правадыра—„Кнігу ў масы". Штаб культэстафэты павінен даць у Ленінскія дні маршрут пад лёзунгамі: „Кніга ў масы", „Кнігу—па галоўнейшых вучастках сацбудаўніцтва", „За палепшаньне усёй сыстэмы культпалітасьветнай работы.

Канкрэтна кніжны паход павінен уключыць:

1. Праверыць становішча культпалітасьветнай работы на ўсіх прадпрыемствах, фабрыках, заводах, саўгасах, калгасах, МТС, арцелі і г. д.

2. Правесьці агляд работы бібліятэк і кнігагандлёвых арганізацый і іх удзел у важнейшых мерапрыемствах, праводзімых партыяй.

3. Ачысьціць бібліятэкі, хаты-чытальні і кнігарні ад устарэлых і палітычна-нявытрыманых кніг і стварэньня добраякаснага асартымэнту.

4. Рэалізаваць пастановы бібпахода у галіне папаўненьня кніжных фондаў бібліятэк і стварэньня новых фондаў, мабілізуя для гэтай мэты сродкі дзяржаўных, прафэсыйных, каапэрацыйных арганізацый, а таксама і сродкі насельніцтва, з разьлікам давядзеньня бібфондаў—аднаго экзэмпляру на душу насельніцтва ў гарадзкіх бібліятэках і па 2 экз. на душу насельніцтва ў вясковых бібліятэках.

5. Забясьпечыць усе буйныя саўгасы, калгасы і МТС стацыянарнымі альбо перасовачнымі бібліятэкамі.

6. Разгарнуць кнігаоства, сець кніжных кіёскаў і бібліятэк на ўсіх фабрыках, заводах, арцеляй і г. д.

7. Разгарнуць шырокую працу па выяўленьню якасьці кніжнага асарты

мэнту пад лёзунгам: „Барацьба з халтурай“, „Ніводнай тоны паперы на непатрэбныя і неактуальныя кнігі“.

8. Павышэньне кваліфікацыі бібліятэчных і кнігагандлёвых работнікаў, а таксама папоўніць кадры кнігараспаўсюджвацеляў.

9. Зусім недастаткова мы папулярызуем беларускую і нацменаўскую літэратуру на прадпрыемствах сярод рабочых і калгасьнікаў, неабходзен сыстэматычны выезд брыгады пісьменьнікаў на буйнейшыя прадпрыемствы гораду і вёскі

Рабочыя і калгасьнікі павінны ведаць лепшых пралетарскіх пісьменьнікаў і іх творы.

Кніжнікі, бібліятэчныя і ўсе культасьветныя работнікі ў часе маршруту культэстафэты павінны паказаць сапраўдныя бальшавіцкія тэмпы перабудовы культпалітасьветнай работы і забясьпечыць на далей сыстэматычнае ўзмацненьне культпалітасьветработы і кнігараспаўсюджваньне.

# САРВАЛОСЯ...

*(Замест фэльетона)*

У туманны васеньні дзень ён прыехаў у Чэрвень...

Добра апрануты, вялікія рагавыя акуляры, бародка—„а ля франсэ“, партфэль—тоўсты.

Адным словам, было ўсё, каб прадставіцца чалавекам з „Цэнтру“. Прайшоўся гэты чалавек па галоўнай вуліцы і завярнуў у праўленьне Чэрвеньскага Райспажыўсаюзу.

— Скажэце, хто тут старшыня?

— Калі ласка, дзьвер направа.

Агледзіўшыся, ён павольна ўваходзіць да старшыні.

— Добры дзень, маю гонар прадставіцца: Пятроў, Пётр Пятровіч, (ён-жа **Рабіновіч**) супрацоўнік і прадстаўнік ад РСІ, г. зн. ад „Техники Управления“, ад ДВБ, ГІЗУ РСФСР, СССР і г. д. і г. д.

Чалавек раскачаўся, прыкладна, хвілін на 30, але яго прыпыніў старшыня.

— Так, так, але чым-жа я магу вам служыць?

— Вы, як старшыня праўленьня, тав. Корж, вельмі добра разумееце ролю кнігі на сучасным этапе разгорнутага наступленьня па ўсяму фронту, ролю пралетарскага друку ў 2-й пяцігодцы, вы разумееце, што кніга зьяўляецца памоцнікам (?!) у канчэньні пяцігодкі ў 4 гады і вось, ваш раён, па мойму, адчувае кніжны голад (?!) у той час, калі дзяржава затрачвае на нас (агентаў) вялізарнейшыя сродкі, дык вось—ці не магчыма на падставе вышэй сказанага атрымаць ад вас заказ тысяч на 5—10 на кнігі для вашага раёну, з адпаведным задаткам; гэта толькі на першы час, потым...

— Добрая справа, але аб гэтым вам неабходна дагаварыцца з загадчыкам кнігарні, які адказвае за гэту справу.

Калі-б хто зазірнуў у твар Рабіновіча, дык прыкмеціў-бы як гэты твар пачаў мяняць свой колер, ён (агэнт) зразумеў, што тут—справа ня выгарыць.

— Ну выбачайце, пайду да загадчыка кнігарні.

І ціханька выплыў маленькі чалавек з вялікім „цэнтральным“ партфэлем з габінэту старшыні, але да загадчыка кнігарні не пайшоў, так як яшчэ да наведваньня старшыні ён ужо пабываў у кнігарні, дзе ўпэўніўся аб наяўнасьці поўнага асартымэнту, патрэбных раёну кніг.

У агэнта сарваўся лёгкі заработак.

А колькі такіх гастралёраў едуць па раёнам, ходзяць па ўстановам і кладуць тысячы ў свае кішэні?

Неабходна пакласьці канец гэтаму гастралёрству. Загадчык кнігарні павінен быць цесна зьвязаны з усімі арганізацыямі свайго раёну, ведаць кнігі, не дапушчаць да такой сур'ёзнай справы, як распаўсюджваньне савецка-партыйнага друку, людзей, якія далей свайёй кішэні нічога ня бачаць, а толькі шкодзяць, вельмі часта дасылаючы заказчыку ўстарэўшыя кнігі.

Больш пільнасьці ў сваёй рабоце і гэтым самым пакладзем канец любіцелям лёгкай нажывы.

**ПРАЦАЎНІК.**

# УЗМАЦНІЦЬ ПРАСОЎВАНЬНЕ НАЦМЕНКНІГІ

Работа па абслугоўваньню кнігай нацменшасьцяй пастаўлена ў нас нездавальняюча. Райкнігарні да гэтага часу не перабудавалі сваю работу так, каб давесьці неабходную нацкнігу да спажыўца. Мы часта наглядаем, што каштоўная нацменкніга валяецца пад прылаўкам, часта пасылкі з нацкнігамі ляжаць не распакаванымі ў райкнігарнях тыдзень і больш.

БАКТ прыдавая выключнае значэньне друку на нацмовах, як зброі падняцьця палітычнага і культурнага ўзроўню працоўных нацменшасьцяў, мабілізуючы іх на будаўніцтва сацыялізму—**аб'явіў месячнік прасоўваньня нацменкнігі ў масы.**

На сёнешні дзень райкнігарні БАКТ'у і РСС яшчэ недастаткова ўкамплектаваны асартымэнтам нацменкнігі. Навінкі адсутнічаюць; шмат дзе ў кнігарнях няма спэцыяльнага аддзелу або месца для нацкнігі, адсутнічае паказ яе. Адсутнічае сувязь з калектыўным і індывідуальным спажыўцом. Ня створан вакол работы з нацменкнігай актыў з нацыяналаў. Масавая работа не разгорнута.

Усё гэта паказвае, што з боку асобных райкнігарань існуе недаацэнка ў гэтай сур'ёзнай справе.

Такому становішчу павінен быць пакладзен канец. З бальшавіцкай ўпартасьцю мы павінны наверстаць прапушчанае.

Праводзімы зараз месячнік нацменкнігі павінен паслужыць паваротам усёй нашай сыстэмы тварам да абслугоўваньня патрэбнасьці працоўных нацменшасьцяй.

Зараз-жа неабходна прарабіць наступнае:

1. Выявіць у сваім раёне колькасьць нацменаў, колькасьць школ, бібліятэк, хат-чытален, абслугоўваючыя нацменшасьці.

2. Праверыць сумесна з прадстаўніком Райпалітасьветы і нацактывам маючуюся нацменлітаратуру, ізьяць ідэолёгічна шкодную кнігу і даўкамплектаваць неабходным асартымэнтам літаратуры.

3. Зьвязацца з калектыўным і індывідуальным спажыўцом нацменкнігі.

4. Арганізаваць (там дзе іх няма) спэцыяльныя аддзелы, полкі, вітрыны нацменкнігі. Шырока выстаўляць нацменкнігу на калгасным базары.

5. Праз раённы друк шырока папулярызаваць нацменкнігу і сыстэматычна зьмяшчаць сьпісы навінак нацменлітаратуры.

6. Арганізаваць актыў з нацыяналаў і скарыстаць апошні ў якасьці кніганош.

7. Матарыял па праводзімаму месячніку дасылаць часопісу „Культфронт“.

Усю работу месячніку прасоўваньня нацкнігі праводзіць на аснове сацспаборніцтва і ўдарніцтва.

**Д—ч.**



Брагін. Кнігарня РСС

Бяз кнігі няма ведаў, бяз ведаў няма камунізму

ЛЕНІН.

# ДВУХТЫДНЁВІК ПРАСОЎВАНЬНЯ МАРКСЫСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ КНІГІ

Пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі працоўныя масы Савецкага Саюзу пасьпяхова завяршаюць першую пяцігодку у чатыры гады. Рашаючыя посьпехі сацыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне і вялізарнейшыя палітычныя і гаспадарчыя задачы другой пяцігодкі выклікаюць шалёнае супраціўленьне нашых клясавых ворагаў, адчуваючых свой канец у канчатковай перамозе сацыялізму ў СССР.

Для дасягненьня сваіх мэтаў, клясавы вораг апіраецца на найбольш адсталую частку рабочых, калгасьнікаў і нават на асобных малаўстойлівых элемэнтаў—членаў партыі, няздольных выкрыць сапраўдны твар клясавага ворага, у значнай ступені, з-за сваіх недастатковых тэарытычных ведаў.

ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б неаднаразова гэта падкрэсьліваючы, за апошні час вынесьлі шэраг рашэньняў, накіраваных на падняцьце тэарытычнага ўзроўню працоўных, і ў першую чаргу, членаў і кандыдатаў партыі і камсамольцаў.

> „Нізкі палітычны ўзровень значнай часткі камуністаў прыводзіць і зараз да таго, што бываюць выпадкі, калі партыйцы ня здольны процівастаяць клясаваму ворагу асабліва на вёсцы і пападаюць на вудачку кулака. У нас ня мала членаў і кандыдатаў партыі, якія ня ведаюць прграму і тактыку партыі, якія палітычна няпісьменны і ня вучацца марксызму і ленінізму". („Правда" № 342).

Гэтыя рашэньні накладаюць на камсамольскія арганізацыі і на кніжных работнікаў вялізарную адказнасьць за справу прасоўваньня марксысцка-ленінскай літаратуры ў працоўныя масы, за актывізацыю гэтай работы. Неабходна ў самы кароткі тэрмін перабудаваць работу кнігарань у напрамку забясьпечаньня раёна партыйна-масавай літаратурай і ў першую чаргу—творамі Маркса-Энгельса-Леніна-Сталіна. Неабходна паставіць работу па распаўсюджваньню гэтых кніг так, каб прыкаваць увагу да іх шырокіх партыйных, камсамольскіх мас і беспартыйнага актыву.

Для забяспечаньня посьпеху у гэтай рабоце—ЦК ЛКСМБ і БАКТ—пачынаючы з 7-га студзеня 1933 году аб'яўляюць двухтыднёвік прасоўваньня марксысцка-ленінскай кнігі.

Двухтыднёвік ідзе пад лёзунгамі:

1. „Ніводнага партыйца, камсамольца, актывіста без марксысцка-ленінскай бібліятэкі".
2. „Уздымай свой тэарытычны ўзровень, вывучай творы Маркса, Энгельса, Леніна, Сталіна".

Усю праводзімую работу трэба паставіць так, каб двухтыднёвік зьяўляўсябы асновай для далейшага сыстэматычнага ўнядрэньня марксысцка-ленінскай, партыйна-масавай літаратуры сярод партыйных, камсамольскіх і прафсаюзных мас.

Зьмяшчаючы ніжэй плян правядзеньня двухтыднёвіка, ЦК ЛКСМБ і БАКТ зварочвае ўвагу ўсіх камсамольскіх арганізацый і загадчыкаў кнігарань на неабходнасьць штодзённага кіраўніцтва і дагляду за праводзімай кампаніяй, забясьпечыўшы пасьпяховасьць сканчэньня яе да Ленінскіх дзён з найбольшай эфэктыўнасьцю.

ЦК ЛКСМБ ЛУБЕНСКІ
БАКТ ЛЮБІЧ

# ПА БАЯВОМУ ПРАВЯДЗЕМ ДВУХТЫДНЕВІК

## УНЯДРЫМ У МАСЫ *МАРКСЫСЦКА-ЛЕНІНСКУЮ ЛІТАРАТУРУ*

# ПЛЯН ПРАВЯДЗЕНЬНЯ 2-хТЫДНЕВІКА РАСПАУСЮДЖВАНЬНЯ МАРКСЫСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ КНІГІ.

**ДВУХТЫДНЁВІК РАСПАЧАЦЬ 7-га студзеня 1933 г.**

**Мэтавая ўстаноўка.**

1. Мэта двухтыднёвіка—ўзброіць партыйны, камсамольскі і беспартыйны актыў марксысцка-ленінскай кнігай, садзейнічаючай ауладаньню шырокімі масамі працоўных марксысцка-ленінскай тэорыяй.

**Практычныя мерапрыемствы**

1. ЦК ЛКСМБ і БАКТ абвяшчае **„эстафэту“** з мэтаю даць кожнаму партыйцу, камсамольцу і актывісту да ленінскіх дзён (21-22-I—33 г.) бібліятэку—лепшых твораў Маркса, Леніна і Сталіна, па пытаньню 9 студзеня і апошніх рашэньняў партыі.

2. У кожным раёне ствараецца тройка з прадстаўнікоў РК ЛКСМБ і загадчыка райкнігарні, на якіх ускладаецца арганізацыя прасоўваньня марксысцка-ленінскай літаратуры.

3 Раённая тройка пасылае ў кожную камсамольскую ячэйку „эстафэту“, якая будзе даслана ў раённую кнігарню ў надрукаваным выглядзе.

У гэтай „эстафэце“ будзе зьмешчан рэкамэндацыйны сьпіс літаратуры і кароткая інструкцыя ячэйкам аб парадку распаўсюджваньня гэтай літаратуры.

4. У кожным раёне абвяшчаецца конкурс на лепшую ячэйку па распаўсюджваньню масава-палітычнай кнігі, разгортваньню сацспаборніцтва і ўдарніцтва.

Для прэміраваньня лепшых ячэек і кніганош раённыя кнігарні ствараюць спэцыяльныя грашовыя фонды.



Чэрвень. Кнігарня РСС

## *Усім заг. кнігарань БАКТ'у і РСС*

Улічваючы шэраг хадайніцтваў, паступіўшых ад адстаючых кнігарань, аб працягваньні трохмесячніку, з мэтаю дачы ім магчымасьці падцягнуцца да ўзроўня перадавых кнігарань, Усебеларускім Штабам вынесена рашэньне аб працягу к о н к у р с у яшчэ на адзін месяц, г. зн. да 1-га лютага 1933 г.

УСЕБЕЛАРУСКІ ШТАБ ТРОХМЕСЯЧНІКУ

# АБАНЭМЭНТЫ І ЯК ІМІ КАРЫСТАЦЦА

Для найлепшага абслугоўваньня калектыўнага і індывідуальнага спажыўца кнігай, БАКТ'ам, з дазволу Наркамфіну ССР, надрукованы і выпушчаны абанэмэнты каштоўнасьцю ў 5 і 10 руб. (узор гл. ніжэй).

Па гэтым абанэмэнтам спажывец мае права атрымаць кнігі па ўсім кнігарням БАКТ'у і Райспажыўсаюзу.

Выпушчаныя абанэмэнты прызначаны, галоўным чынам, для распаўсюджваньня іх сярод калектыўнага спажыўца, як-та, РК КП(б)Б, РК ЛКСМБ, Райсьветы, Райкалгассаюзу і г. д. з тым, каб апошнія мелі магчымасьць набываць патрэбную ім кнігу. Але гэта ні ў якім разе ня значыць, што ня трэба распаўсюджваць абанэмэнты сярод індывідуальных спажыўцоў кнігі; наадварот, неабходна давесьці да ведама шырокіх мас працоўных аб абанэмэнтнай сыстэме і якія перавагі яна дае.

Задача кожнага загадчыка кнігарні заключаецца ў тым, каб сваячасова давесьці да ведама трымацеля абанэмэнту аб паступаючых навінках, не дапушчаць ніякіх затрымак пры выбары кніг, выдаваць кнігі па першаму патрабаваньню, а пры адсутнасьці апошніх, тэрмінова заказываць праз БАКТ, з адзнакай— „па абанэмэнту".

Сачыць за тым, каб пры сканчэньні абанэмэнту спажывец набываў новыя абанэмэнты і толькі пры сур'ёзных і ўважлівых адносінах да гэтай справы, мы дасягнем мэты, якая пастаўлена выпускам абанэмэнтаў.

Ніжэй мы паказваем, як зварочвацца з абанэмэнтам:

1. Загадчык кнігарні абавязан на суму адпускаемых кніг адразаць ад абанэмэнту на адпаведную суму бон, якія скл дваць у асобную скрынку.

2. У канцы месяцу загадчык кнігарні падлічвае агульную суму адрэзаных бон і запісвае іх у месячную справаздачу, як выручку ў радок „Чытачоў праката".

„КНІГУ—У МАСЫ" (Ленін)

АБАНЭМЭНТ
НА ПРАВА
АТРЫМАНЬНЯ КНІГ
З УСІХ КНІГАРАНЬ
БАКТ'у І РАЙСПАЖСАЮЗУ
на суму 10 руб.
Мае моц да 1 VII 1933 году

(прозьвішча, імя і па бацьку)

Дырэктар БАКТ'у

Заг. кніжным сэктарам

| | | | |
|---|---|---|---|
| 75 к. БАКТ | 1 р. БАКТ | 1 р. БАКТ | 10 к. БАКТ |
| 25 к. БАКТ | 50 к. БАКТ | 25 к. БАКТ | 50 к. БАКТ |
| 10 к БАКТ | 50 к. БАКТ | 50 к. БАКТ | 25 к. БАКТ |
| 25 к. БАКТ | 10 к. БАКТ | 1 р БАКТ | 50 к. БАКТ |
| 5 к. БАКТ | 1 р. БАКТ | 5 к. БАКТ | 10 к БАКТ |

Узор „Абанэмэнту"

У тэй час, калі па абанэмэнтам ГІЗ'у РСФСР можна набываць кнігі толькі на рускай мове і толькі ў 8 гарадох БССР, дык па абанэмэнтам БАКТ'у можна набываць кнігі на ўсіх мовах і па ўсіх кнігарнях БАКТ'у і РСС у любым раёне,

УВАГА: У сувязі **з тым**, што пракат, з-за дэфіцытнасьці кнігі, нідзе ня ўжываецца, мы лічым магчымым заняць гэты радок у месячнай справаздачы для адзнакі сумы рэалізаваных кніг па абанэмэнтам.

3. Падлічаныя боны пры адпаведным лісьце накіроўваюцца заказной поштай у БАКТ, у замен чаго В| будуць высланым адчынены рахункам навінкі кніг з адпаведнай скідкай (ад 20 да 28 проц.).

4. Зварачваем Вашу ўвагу на тое, што **без пячаткі БАКТ'а абанэмэнт не сапраўдны.**

5. У кожную кнігарню высылаецца адзін экз. абанэмэнту, па атрыманьні якога **Вам неабходна** зараз-жа зьвязацца з кіраўнікамі ўсіх установаў раёну і параіць ім набыць пэўную колькасьць абанэмэнтаў за сродкі ўстаноў, для раздачы гэтых абанэмэнтаў сваім адказным работнікам.

6. Дагаварэцеся з Райана, каб сельсаветы, школы, 7-годкі і іншыя навуч. установы на нескарыстаныя да гэтага часу сумы, асыгнаваныя на набыцьцё кніг і падручнікаў, набылі-бы ў В/ абанэмэнты, па якім яны змогуць набіраць кнігі да 1/VII-33 г.

7. Абанэмэнты высылаюцца БАКТ'ам наложаным плацяжом па атрыманьні ад кнігарні адпаведнага заказу.

## МЕНСК, БАКТ'у, „СЫГНАЛЬНЫ ПОСТ"

Нам неаднаразова прыходзілася заўважаць, што кнігагандлёвым сэктарам ДВБ нашы заказы выконваюцца на 25 проц. альбо зусім ня выконваюцца сваячасова, напрыклад: заказ на школьныя бібліятэчкі (92 па 12 р. і 17 па 30 р.) выкананы—20 па 4 р. 90 к.; 17 па 18 р., што складае ўсяго 30 проц. Заказы на масавую літаратуру выконваюцца такім жа чынам. Наш заказ ад 27|X, ня гледзячы на тое, што дырэктар Кнігагандлю ДВБ абяцаў у той-жа дзень выслаць, да гэтага часу намі не атрыман, такім чынам, мы стаім перад фактам поўнага зрыву трохмесячніка штурму і двухдэкадніку „Кніга вучню"—просім прыняць рашучыя меры да выкананьня нашых заказаў бесперапынна.

Адначасова паведамляем, што на раду з недасылкай нашых заказаў ДВБ фарсіруе прысылку „гастралёраў" у наш раён для прыёму заказаў ад устаноў. Нядаўна нам прыходзілася ануліраваць заказ Райана праз „гастралёра", а таксама заказ Пэдтэхнікуму, зроблены праз „гастралёра" Кульбацкага. Раім Кнігагандлю ДВБ больш уважліва адносіцца да тых арганізацый, якія могуць самастойна задаволіць пакупніка на мясцох, засылаць нам сваечасова заказы і не прыбягаць да штучнага выкананьня гандльфінпляну сваёй Цэнтральнай Кнігарні ў Менску,

За Загадчыка Арг. Мас.
Аддзелам РСС ГОЛЬДЗІН
Загадчык Кнігарні ШЛОСБЭРГ.

## ПРАЎЛЕНЬНЕ РСС АДКАЗВАЕ ЗА РАБОТУ КНІГАРНІ

Згодна пастановы нарады Аргаддзелаў пры БКС ад 12|XI-32 г. у кожным РСС павінен быць вылучан член праўленьня, які-б адказваў за работу кнігарні, але гэта пастанова да праўленьня Чэрвеньскага Райспажыўсаюзу, як быццам, і не датычыцца. За ўвесь час існаваньня ў раёне кнігарні, праўленьне ні разу не заслухала справаздачы загадчыка кнігарні. У тэй час, калі партыя і ўрад надаюць вялікае значэньне справе кнігараспаўсюджваньня праўленьне РСС прадстаўляе гэты вучастак работы поўнаму самацёку.

Ня лепей абстаіць справа і па сельпо.

Далей так працягвацца ня можа. Праўленьне РСС павінна зараз-жа, асабліва у час правядзеньня трохмесячніку, канкрэтна зацікавіцца работай кнігарні, заслухаць справаздачу загадчыка на праўленьні, заслухаць, што прарабілі інструктары ў часе іх прабываньня па сельспажыўтаварыствам, якую дапамогу яны аказалі ў сэнсе наладжваньня работы кніжных паліц у сельпо і прымусіць праўленьне сельпо павярнуцца тварам да культурных запатрабаваньняў пайшчыкаў.

Слова за праўленьнем. КНІГАР.

Рэдакцыя „Культфронту" чакае тлумачэньня праўленьня Чэрвеньскага Райспажсаюзу па закранутаму пытаньню.

# 1-я КАНФЭРЭНЦЫЯ ЧЫТАЧОЎ-ВУЧНЯЎ гор. ДЗЯРЖЫНСКУ

У час правядзеньня 2-хдэкадніка „Кніга вучню“ Наркамасьветы і БАКТ‘ам была арганізавана ў гор. Дзяржынску (б. Койданава) канфэрэнцыя чытачоў-вучняў.

У праведзенай канфэрэнцыі актыўны ўдзел прынялі беларускія пісьменьнікі т. т. Маур і Якімовіч.

12 лістапада ў памяшканьні мясцовай 7-годкі сталі зьбірацца вучні і настаўнікі польскай, беларускай і яўрэйскай сямігодак.

Проста, ва умовах звычайнай школьнай працы, пачалася гутарка пісьменьнікаў з вучнямі-чытачамі, апошнія з захапленьнем слухалі гутарку пісьменьнікаў.

Тав. Якімовіч гаварыў аб вялікім значэньні кнігі і друкаванага слова для агульнага разьвіцьця чалавека і аб працы вучняў-піянэраў, якія пішуць у друкуемых дзіцячых часопісах і газэтах. Шляхам шэрагу прыкладаў і чыткі артыкулаў, вершаў і лістоў, атрыманых і надрукаваных рэдакцыяй часопісу „Іскры Ільліча“, тав. Якімовіч ілюстраваў і паказваў вучням, як самі дзеці, сваім удзелам, ствараюць цэлыя старонкі часопісаў і газэт, якіх з нецярплівасьцю чакаюць юныя чытачы і чытаюцца ня толькі ў нашым Савецкім Саюзе, але ва ўсіх кутках далёкіх капіталістычных краін, дзе самі дзеці ня ўдзельнічаюць у друкуемых дзіцячых кнігах і газэтах.

Дзеці зразумелі яго і пасьля кожнай чыткі з задавальненьнем і захапленьнем апладыравалі і чакалі працягу гутаркі.

Тав. Маур—вядомы пісьменьнік дзіцячых твораў і адначасова добры пэдагог, надзвычайна проста, з юмарам, падышоў да сваёй юнацкай аўдыторыі, паказваючы на прыкладах, якое значэньне мае чытаньне кніжок для кожнага чалавека і як унешкольнае чытаньне папаўняе атрыманыя веды ў школе.

Тав. Маур расказаў канфэрэнцыі, якімі кніжкамі ён у свой час захапляўся, аб лістох, якія яму пішуць зараз дзеці-чытачы, аб напісаных кнігах для вучняў і г. д.

Юнацкая аўдыторыя надзвычайна захопленая расказамі пісьменьнікаў, аднак не рашылася на самастойныя выступленьні, але запытаньні прэзыдыуму прывялі некаторых вучняў да расказу зьместу прачытаных імі кніг.

Большая частка вучняў запамятала імёны дзейнічаючых асоб, блыталі назву кніг, аўтараў не памятаюць, бо ніхто ня прыкоўваў увагу дзяцей на тое, каб навучыць іх як чытаць кнігу.

Дзеці чытаюць што папала, бяз кіраўніцтва з боку настаўнікаў альбо бібліятэчнага работніка. Настаўнікі па мове і літаратуры не ўвялі ў плян заняткаў тэмы—аб працы над кнігай і значэньня кніг. Не зварочана належная ўвага на тое, што і як чытае вучань.

Кнігарняй БАКТ‘а г. Дзяржынску быў арганізаваны ў адным з пакояў школы кіёск дзіцячай літаратуры, рэкамэндаванай НКА; былі выстаўлены лепшыя дзіцячыя кнігі на беларускай, польскай і яўрэйскай мовах. Вучні абступілі сталы з кнігамі, разглядваючы навінкі, жвава дзяліліся друг з другам уражаньнямі аб прачытаных і прагледжаных цікавых кніжках, заахвочваючы адзін аднаго да чытаньня найбольш цікавых кніжок.

Вучнямі з гэтай першай канфэрэнцыі было шмат чаго вынесена; у іх засталося добрае ўражаньне аб сустрэчы з пісьменьнікамі і, бязумоўна, многія з іх пасьля канфэрэнцыі стануць актыўнымі чытачамі юнацка-дзіцячай кнігі.

Н. ГРАМЫКА.

## КОЖНЫ ЗАГАДЧЫК КНІГАРНІ ПАВІНЕН ПАДХАПІЦЬ ВОПЫТ ДЗЯРЖЫНЦАЎ

# РЭЗАЛЮЦЫЯ

*Прынята аднагалосна на канфэрэнцыі чытачоў вучняў г. Дзяржынску (б. Койданава) ад 12|XI-32 г.)*

1. Удзельнікі канфэрэнцыі—вучні-чытачы г. Дзяржынску шчыра вітаюць і дзякуюць Наркамасьветы БССР і БАКТ за арганізаваную сустрэчу чытачоў-вучняў з пралятарскімі пісьменьнікамі Беларусі.

2. Удзельнікі канфэрэнцыі чытачоў-вучняў у г. Дзяржынску бяруць на сябе абавязак:

а) шырока разгарнуць падпіску на часопіс „Іскры Ільліча“ па гораду з тым, каб павялічыць падпіску ня менш чым на 100 экз. да 1 студзеня 1933 г.

б) трымаць сувязь з пісьменьнікамі т. т. Якімовічам і Маурам да 1-га студзеня 1933 г.; адаслаць пісьменьніку Мауру сьпіс з пералічэньнем назваў і аўтараў прачытаных імі кніг.

3. Усе ўдзельнікі канфэрэнцыі прымаюць рашэньне ўключыцца ў абвешчаны НКА БССР і БАКТ'ам двухдэкаднік „Кніга—вучням“ і прымаюць на сябе абавязак на працягу двухдэкадніка **кожнаму** ўдзельніку канфэрэнцыі набыць аднудзьве кнігі рэкамэндаваныя НКА БССР—на суму ад 50 кап. да 1 руб.

5. Канфэрэнцыя заклікае усіх школьнікаў Дзяржынскага раёну пасьледваць іх прыкладу ў набыцьці **бібліятэк** кожным вучнем-чытачом і падпіскі на часопіс „Іскры Ільліча“.

5. Кожны ўдзельнік канфэрэнцыі абавязваецца распаўсюдзіць сярод працоўных раёну кнігі на суму ня менш чым на 3—5 руб.

# НАМ ПІШУЦЬ

*(З пісем і газэт)*

* Загадчык Бягомльскай кнігарні т. Старычонак 13|XI адчыніла кніжны аддзел пры Бярэзінскім сельпо.

Работнік для аддзелу прайшоў 2-хтыднёвыя курсы ў Райкнігарні.

* У дні Кастрычнікавых сьвят Бягомльская кнігарня арганізавала масавае кігаоства.

* Сеньненская кнігарня (заг. т. Роскіна) правяла значную работу па 2-хдэкадніку „Кніга—вучню“, у выніку—за тры дні вучні набылі кніг на 370 руб.

Работа па двухдэкадніку працягваецца.

* У Мсьціслаўле (заг. т. Гайко) 2-хдэкаднік „Кніга—вучню“ даў бліскучыя вынікі. Маюцца школы, якія набылі кніг на 250 руб. Арганізаваны выстаўкі вучнёўскіх кніг у 7-годках.

Распачата работа па забясьпечаньню агра-гурткоў, пры калгасах, агратэхлітаратурай.

* 2-га сьнежня 1932 г. праўленьне Талочынскага Райспажыўсаюза заслухала заг. кнігарні т. Хаўратовіч аб ходзе 3-хмесячніку ўдарнага кнігараспаўсюджваньня.

Праўленьне пастанавіла:

а) перавесьці кнігарню ў новае, больш прыстасаванае, памяшканьне;

б) даць Сельпо кантрольныя лічбы рэалізацыі кніг, абавязаўшы старшынь С-по устанавіць у кожнай полке вітрыны;

в) асыгнаваць 500 руб. на прэміраваньне лепшых па кнігараспаўсюджваньню школ, кнігонош, камсамольскіх і піянэрскіх ячэек.

* Загадчык Мсьціслаўскай кнігарні т. Гайко, выканаўшы ў кастрычніку 141 проц. пляну і перавыканаўшы на 28|XI лістападаўскі плян, выехаў 28|XI у Крычаўскую кнігарню для аказаньня там дапамогі ў правядзеньні трохмесячніку.

* Прадаўшчыца Чэрвеньскай кнігарні т. Батура працуе ў кнігарні больш 7-мі месяцаў, але работай яна ня цікавіцца.

Калі спажывец пытае тую альбо іншую кнігу, якая маецца ў кнігарні, Батура дае локанічны адказ: „гэтай кнігі няма“, нават не паглядзеўшы добра на прылавак, дзе кніга ляжыць.

Загадчык кнігарні павінен сумесна з мясцкомам арганізаваць вучобу сваіх супрацоўнікаў, а тых, якія не жадаюць вывучаць тэхніку кнігагандлю і бюрократычна адносяцца да спажыўца, аслабаніць ад работы ў кнігарні.

## Зводка рэалізацыі літаратуры сыстэмай спажывецкай каапэрацыі за лістапад месяц

| Назва адзінкі | Заданьне | Выканана | Проц. выканан. | Астача ў днёх |
|---|---|---|---|---|
| 1. Аршанскі БАКТ— | 18100 | 17089 | 99 | 60 |
| 2 Асьвейскі РСС— | 3230 | 1803 | 55 | 198 |
| 3. Асіпавіцкі РСС— | 3660 | 3321 | 90 | — |
| 4. Бягомльскі РСС— | 3560 | 1480 | 41 | 163 |
| 5. Бялыніцкі „ — | 3560 | 1363 | 37,4 | 45 |
| 6 Бярэзінскі „ — | 4160 | 4380 | 104 | 28 |
| 7. Бешанковіцкі РСС | 4160 | 2260 | 54 | 46 |
| 8. Брагінскі РСС — | — | — | — | — |
| 9. Б.-Кашалеўскі РСС | 3440 | 3280 | 95,3 | 23 |
| 10. Быхаўскі РСС — | 3640 | 3348 | 91,9 | 53 |
| 11. Бабруйскі БАКТ | 6900 | 6876 | 99 | 81 |
| 12. Барысаўскі „ | 6900 | 5202 | 75,3 | 87 |
| 13. Веткаўскі РСС — | Уключ. | у зва | рот Гом | елю |
| 14. Вушацкі РСС — | 3540 | 5219 | 147,4 | 15 |
| 15. Віцебскі БАКТ — | 15700 | 8310 | 52,9 | 68 |
| 16. Гарадоцкі РСС — | 4010 | 4025 | 100 | 35 |
| 17. Горацкі „ — | 5665 | 5557 | 96 | 27 |
| 18 Глускі РСС — — | 4230 | 7011 | 165,7 | 21 |
| 19. Гомельскі БАКТ— | 32300 | 25871 | 73 | 75 |
| 20. Дубровенскі РСС | 3760 | 1396 | 37 | 193 |
| 21. Дрысенскі РСС — | 2540 | 1450 | 57 | 237 |
| 22. Дзяржынскі РСС | 5150 | 1830 | 35,4 | 294 |
| 23. Ельскі РСС — | 3540 | 2700 | 66,2 | 110 |
| 24. Жыткавіцкі РСС— | — | — | — | — |
| 25. Жлобінскі РСС — | 4250 | 1938 | 45,5 | 165 |
| 26. Заслаўскі РСС— | — | — | — | — |
| 27. Клімавіцкі „ — | 4900 | 7885 | 150 | 22 |
| 28. Клічаўскі РСС — | — | — | — | — |
| 29. Камарынскі РСС | 2760 | 893 | 32 | 290 |
| 30. Копыльскі „ | 3825 | 4122 | 107,7 | 60 |
| 31 Кармянскі „ | — | — | — | — |
| 32. КасьцюковіцкіРСС | 3940 | 6059 | 153,7 | 55 |
| 33. Крычаўскі РСС — | 3340 | 7374 | 220 | — |
| 34. Крупскі „ | — | — | — | — |
| 35. Левінскі (Цэрахаўскі) РСС — — — | — | — | — | — |
| 36. Лельчыцкі РСС— | 3760 | 1703 | 45 | 136 |
| 37. Лепельскі „ | — | — | — | — |
| 38 Лёзьненскі „ | 3310 | 2381 | 71 | 127 |
| 39. Лагойскі РСС — | 3445 | 5260 | 152 | 38 |
| 40. Лоеўскі „ | 3575 | 1793 | 50,1 | 202 |
| 41. Любанскі „ | 3945 | 1527 | 38,7 | 116 |
| 42. Магілеўскі БАКТ | 19500 | 12611 | 64,6 | — |
| 43. Менскі БАКТ — | 20200 | 18190 | 89 | 49 |
| 44. Мазырскі БАКТ— | 8500 | 8005 | 95,3 | 39 |
| 45. Мсьціслаўскі РСС | 5060 | 7167 | 141 | 46 |
| 46. Н. Барыс. БАКТ | 1750 | 159 | 9 | 680 |
| 47 Нараўлянскі РСС | — | — | — | — |
| 48. Парыцкі РСС — | 3620 | 2395 | 66,1 | 143 |
| 49. Петрыкаўскі РСС | 3700 | 2724 | 64 | 134 |
| 50. Плешчаніцкі „ | 3245 | 2689 | 82,2 | 88 |
| 51. Пухавіцкі РСС— | 3950 | 4405 | 111 | 75 |
| 52. Прапойскі „ | 3790 | 942 | 27,4 | 349 |
| 53. Полацкі БАКТ— | 6300 | 2558 | 44 | 153 |
| 54. Рэчыцкі БАКТ— | Уключ. | у зва | рот Гом | елю |
| 55. Рагачэўскі РСС— | 6100 | 11795 | 193,3 | 47 |
| 56. Расонскі „ | 3240 | 3478 | 107,3 | 97 |
| 57. Сеньненскі „ | 3240 | 4081 | 123 | 73 |
| 58. Сіроцінскі „ | 3440 | 2042 | 59 | 211 |
| 59. Смалявічаскі РСС | 3420 | 1167 | 36 | — |
| 60. Старобінскі „ | — | — | — | — |
| 61. Стара-Дарос. РСС | 3435 | 3055 | 88,9 | 73 |
| 62. Сураскі РСС — | — | — | — | — |
| 63. Слуцкі БАКТ — | 6150 | 6373 | 103,3 | 70 |
| 64. Талачынскі РСС— | 4360 | 10088 | 233 | 27 |
| 65. Тураўскі „ | 3040 | 2982 | 94,8 | 87 |
| 66. Уваравіцкі „ | — | — | — | — |
| 67. Узьдзенскі БАКТ | 6000 | 6420 | 107 | 21 |
| 68. Хойніцкі РСС | — | — | — | — |
| 69. Чырвонапольскі „ | — | — | — | — |
| 70. Ч.-Слабодзкі РСС | 3540 | 2571 | 65 | 89 |
| 71. Чавускі „ | 3740 | 4233 | 114,4 | — |
| 72. Чашніцкі „ | 3810 | 2098 | 55 | 126 |
| 73. Чэрвеньскі „ | 4150 | 2478 | 59,9 | 107 |
| 74. Чэрыкаўскі „ | 3660 | 613 | 16 | 383 |
| 75. Чачэрскі „ | 3265 | 3356 | 100,2 | 68 |
| 76. Шклоўскі „ | 4335 | 3837 | 88,4 | 281 |
| Усяго — | 333395 | 289231 | 86,7 | 70,9 |

# ТЭХНІКА АФАРМЛЕНЬНЯ ЗАКАЗУ НА КНІГІ

Пераход на снабжэньне кнігарань па заказам апошніх, а таксама ў мэтах максымальнага паскарэньня выкананьня заказу кніжнымі складамі неабходна, каб усе нашы загадчыкі кнігарань перайшлі **на адзіную сыстэму іх афармленьня.**

Як працаваць з анатацыйнымі сьпісамі, г. зн, як даваць папярэднія заяўкі на беларускія кнігі, якія друкуюцца, мы ўжо пісалі ў 2-м нумары „Культфронт". Зараз мы зьмяшчаем парадак складаньня заказу на кнігі, якія патрабуюцца кнігарні для папаўненьня асартымэнту альбо задавальненьня заказчыкаў.

1. Выпіска з БАКТ'а кніг беларускіх, расійскіх, яурэйскіх і інш., вытвараецца выключна на картках заказаў (узор № 1), якія выпісваюцца ў 2-х экз.

Узор № 1 „Картка заказу"

**Беларускае аб'яднаньне Культтавараў „БАКТ" „БЕЛКААПСАЮЗ"**

Ад *Бягомльскага Райспажыўсаюзу*

Адрас пошты *п/а Бягомль*

чыгункі (ж.-д.) *ст. Барысаў—МББ*

20 экз. | Аўтар *Раймонд Бэкер*

Назва *Жыцьцё і змаганьне амэрыканскага парлетарыяту*

Выданьне *Дз. Выд. Беларусі—1932 г.*

| Адметка аб выкананьні | | | Цана |
|---|---|---|---|
| гр. | кл. | кольк. | 95 к. |

Ордэр №

Карт. №

Заказ №

Увага:

2. Карткі заказаў афармляюцца наступным чынам:

а) на кожнай картцы павінна быць абавязкова паказана: аўтар, поўная назва кнігі, частка яе (том, выпуск), колькасьць заказваемых экзэмпляраў і па магчымасьці цана і год выданьня, таксама павінна быць абавязкова паказана назва Райсаюзу, якому кнігарня падпарадкавана, альбо БАКТ'а;

б) карткі заказаў, як ужо сказана вышэй, запаўняюцца ў 2-х экз., з якіх адна картка застаецца ў Райкнігарні і ў альфабэтным парадку захоўваецца ў скрынцы для таго, каб загадчык меў магчымасьць правяраць, як правільна выконваюцца яго заказы; другі экз. карткі накіроўваецца ў БАКТ для выкананьня;

3. карткі заказаў на расійскія кнігі запаўняюцца на расійскай мове, карткі заказаў на беларускія, яўрэйскія, польскія і інш. кнігі—запаўняюцца на бел-мове;

4. разам з карткамі заказаў неабходна запоўніць адзін блянк заказу (гл. узор № 2) у якім запісаць у альфабэтным парадку (аўтар, назву і колькасьць.

Узор № 2

Беларускаму Аб'яднаньню Культтавараў „БАКТ" „БЕЛКААПСАЮЗ"

Рэвалюцыйная, 26. К-к № 91-5002

Менск ................................ 193 г.

З А К А З №

Станцыя прызначэньня *Барысаў—МББ*

Адрас заказчыка *п/а Бягомль—Райспажыўсаюз*

За рахунак

| №№ па чарзе | Аўтар | Назва | Колькасьць | Інфармацыя |
|---|---|---|---|---|
| | *Раймонд Бэкер* | *Жыцьцё і змаганьне амэрык. пралетарыяту* | 20 | |

Блянк заказаў застаецца ў БАКТ'е, як падстава для выкананьня заказаў; карткі заказаў пасьля іх апрацоўцы на складах будуць зварочвацца назад у кнігарні з інфармацыяй аб становішчы заказаў. Карткі, па якім назвы кніг ня будуць высланы, (з прычыны таго, што яны распрададзены), будуць зварочвацца з надпісам „Р".

Надпіс на картцы „Дос"—будзе азначаць, што паказаная кніга часова на складзе адсутнічае, але ў бліжэйшы час дaслана. Адзнакі на картцы: „Друк"—будзе азначаць, што заказаная кніга друкуецца, а пагэтаму заказ да выкананьня ня прыняты.

Заказ павінен пісацца разборчыва з пералічэньнем усіх патрэбных паказчыкаў.

З 10 студзеня 1933 ўсе заказы прысланыя не па вышэй паказанай форме да выкананьня прымацца ня будуць.

ГІНЗБУРГ.

# МЫ ЖАДАЕМ РАСПАУСЮДЖВАЦЬ КНІГІ

У мінулым навучальным годзе наша піянэр-база сумесна з ШКМ (Гарадзец, Рагачэўскі раён) распаўсюджвала да вясеньняй пасяўной кампаніі с-г літаратуры, за што атрымалі прэмію (чатырохлямпавы радыёпрыёмнік) ад Рагачэўскай кнігарні.

У гэтым годзе, на сходзе піянэр-базы і школы пастанавілі, каб кожны вучань другога канцэнтру распаўсюджыў літаратуры сярод насельніцтва ў сярэднім на 2,5 руб. (разам 600 руб.).

Мы ўжо прыступілі да гэтай работы і абавязваемся да канца навучальнага году выканаць і перавыканаць узятае самаабавязацельства, але распаўсюджваньне затрымлівае Гарадзецкае сельпо.

Прадстаўнік Рагачэўскай кнігарні, які прыяжджаў у Гарадзец, дагаварыўся з старшынёй сельпо, каб апошні ўзяў у кнігарні для сельпо літаратуру, але старшыня—т. Якімовіч зусім аб гэтым не клапоціцца.

Калі-ж, нарэшце, т. Якімовічу надумаецца прывезьці кнігі ў краму?

**Б. Гуцін.**

Гарадзец, Рагачэўскі р-н.

Рэдакцыя „Культфронт" просіць праўленьне Рагачэўскага РСС паведаміць, што зроблена, каб т. Якімовіч не перашкаджаў распаўсюджваньню кнігі ў масы.

---

## *Бел. аб'яднаньню культтавараў БАКТ'у*

## РАПАРТ

Заданьне БАКТ'а рэалізацыі літаратуры па Глускаму раёну на IV кв. выканана да 1/XII г. г. на 97 проц.

Гандльфінплян па ўсім астатнім культтаварам выканан на 96 проц., акрамя гэтага намі адпушчана кніг і культтавары вясковым крамам на суму 9.436 руб.

Заг. Кнігарні РСС Глускага р-ну Грынбэрг.

## *Менскаму філіялу БАКТ'а*

## РАПАРТ

Дадзены нам гандльфінплян на IV кв. у суме 108.000 руб. выканан на 10/XII-1932 г. на суму 122.561 руб. 14 к. альбо 113 проц.

Барацьба за далейшае перавыкананьне—працягваецца.

Заг. Кніжным магазынам Менску Салавейчык.

МЕНСК—БАКТ'у

## *ТЭЛЕГРАМА*

З УЗДЫ

Гандльфінплян чацьвертага кварталу выканан 102 процанты Кніга займае 37 проц. тавараз вароту Барацьба за перавыкананьне працягваецца Карась.

## РЭДАКЦЫІ „КУЛЬТФРОНТ"

На артыкул у часопісу „Культфронт" № 3 „Няма часу распакаваць" Райсаюз паведамляе, што загадчык кнігарні Цэхановіч з працы зьнята. Прыняты меры па ўпарадачэньні работы кнігарні.

Праўленьне Клічаўскага РСС.

## УСІМ ЗАГАДЧЫКАМ ГАР. і РАЙАНА

У мэтах арганізаванага і лепшага забясьпечаньня вучняў пэтрэбнай для іх дзіцячай мастацкай літаратурай, рэкамэндаванай ДВС НКА, Беларускае Аб'яднаньне Культтавараў (БАКТ) уводзіць папярэдні продаж талёнаў на права атрыманьня з раённых кнігарань Райспажыўсаюзу і БАКТ'у кнігі, па выбару прад'яўніка талёну, на суму ўказаную на адвароце талёну.

Наркамасьветы прыдае вялізарнае значэньне гэтаму мерапрыемству, як аднаму з лепшых мэтадаў прасоўваньня дзіцячай і юнацкай літаратуры ў вучнёўскія масы. Неабходна шырока папулярызаваць гэтае мерапрыемства сярод школ.

Разам з раённымі кнігарнямі Райспажыўсаюзу і БАКТ'у выпрацоўвайце кантрольныя лічбы распаўсюджваньня талёнаў па школам, усяляк садзейнічайце загадчыкам раённых кнігарань у распаўсюджваньні гэтых талёнаў сярод школ.

Нам. Наркома Асьветы БССР Рудніцкі

## УСІМ КНІЖНЫМ МАГАЗЫНАМ БАКТ'а І РСС

Рэдакцыя часопісу „Культфронт" даводзіць да ведама ўсіх кніжнікаў, што ў студзеньскім нумары „Культфронт" абвяшчаецца пераклічка раёнаў, якія ўключыліся ва ўдарны трохмесячнік прасоўваньня кнігі, пераклічка кніганошаскіх брыгад, школ, піянэр-атрадаў удзельнічаючых у кніганошастве, а таксама агляд кнігарань ніжэй раённага цэнтру і ўноў арганізаваных кіёскаў, ларкоў на базарах, у клюбах, тэатрах, сталоўках, калгасах, саўгасах, МТС і г. д.

Просім прыслаць наступны матарыял:

1. Аб працы кнігарні ў сьнежні (масавая праца).
2. Аб становішчы і працы кнігарань ніжэй раённага цэнтру.
3. Аб працы асобных кіёскаў і ларкоў (пажадана матарыял саміх кіёскераў).
4. Аб працы кніганошаскіх брыгад, школ і асобных кніганош (пажадана матарыял асобных кніганош).
5. Фото-здымкі магазынаў, ларкоў, груп кніганош і асобных кніганош ударнікаў.

Рэдакцыя „КУЛЬТФРОНТ".

## ІНФАРМАЦЫЯ № 2

Аб выхадзе падручнікаў для 1932-33 навучальнага году для ніжэйшай і сярэдняй школы.

Вышлі з друку і разасланы па кнігарнях РСС і БАКТ'а.

1. Гадашэвіч. Грамадазнаўства для 3 году, ц. 40 кап. тыр. 80000.
2. Пісарчык. Матэматыка для 2 году, ц. 25 кап. тыр. 65000.
3. Тупяневіч. Юная раць, для 2 году гарадзк. школы, ц. 65 кап. тыр. 25000.
4. Пятэцкі. Справачнік па матэматыцы, ц. 70 кап. тыр. 20000.
5. Мяшалкіна—Сіўко „Гудок" Альбом 11 ч. ц. 1 р. 60 кап. пер. 25, тыр. 15000.
6. Кахаяоўскі. Падручнік гісторыі для 5 году ц. 40 кап. тыр. 50000.
7. Казлоў. Прыродазнаўства для 5 г. ц. 1 р. 50 к. тыр. 55000.
8. Лойка і Сакольчык. Эконом-геаграфія для 5 году, ц. 1 р. 75 к. тыр. 45000.
9. Руткоўскі. Альгебра для 6 году ц. 1 р. 80 к. тыраж 40000.
10. Капаевіч і інш. Грамадазнаўства Падручнік для школ дарослых 1 ступ. ц. 90 к. тыраж 50000.

*Выдавец. БАКТ* *Адказны рэдактар С. Любіч.*

Друкарня Кір. Спраў СНК і ЭКААС БССР Менскі Горліт 1111. Зак. 1845 Тыр.